наша
свабода

№58(145) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

6 ЧЭРВЕНЯ
2001 года
СЕРАДА

Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Інтэграцыйныя жарсці ў Гродне

*Увесь асартымент інтэграцыйных пачуццяў выліў на расійскіх і беларускіх парламентарыяў кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён спяшаецца: да верасня, калі мусяць адбыцца прэзідэнцкія выбары, застаецца ўсё менш часу, а зрабіць на полі інтэграцыі трэба яшчэ шмат чаго.*

Учора ў Гродне адкрылася сесія Парламенцкага сходу Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. На ёй А.Лукашэнка пабяцаў ужо гэтай восенню – пасля выбараў – арганізаваць рэферэндум, на якім будзе прынятая Канстытуцыя Саюзнай дзяржавы.

### Канстытуцыя цісне

Па словах беларускага кіраўніка, праект Канстытуцыйнага акта аб стварэнні адзінай беларуска-расійскай дзяржавы, магчыма, будзе абмеркаваны ўжо на бліжэйшым паседжанні Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюза Беларусі і Расіі, якое адбудзецца ў гэтым месяцы ў Маскве. «Неабходна на паседжанні Вышэйшага дзяржсавета спачатку абмеркаваць і ўхваліць праект канстытуцыйнага акта... Варта глыбока прадумаць этапнасць прапануемых захадаў інтэграцыі», — асабліва падкрэсліў ён.

Як бачым, уласная беларуская Канстытуцыя А.Лукашэнку ўжо цісне – маштаб ягоных амбіцыяў высоўваецца далёка за яе межы.

Па шматгадовай савецкай традыцыі, уласныя амбіцыі і парывы А.Лукашэнка выдае за агульныя. «Мэта, якую мы ставім, ідучы на яднанне, — гэта жыццё грамадзянаў і бяспека дзяржаваў», — гаварыў ён. З ягоных словаў вынікала, што ідэя беларуска-расійскага саюза настолькі папулярная ў абедзвюх краінах, што «нас будуць падтрымліваць усе грамадзяне Беларусі і Расіі».


Фота IREX/ProMedia

### Расія ўсё псуе

Шмат крытычных заўвагаў выказаў А.Лукашэнка на сесіі ў бок свайго «стратэгічнага партнёра» – Расіі. Магчыма, беларускі кіраўнік такім чынам помсціў прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну за перахоп ініцыятывы на нядаўнім саміце СНД.

А.Лукашэнка ў сваім выступе адзначыў, што зацягваецца пытанне па рэарганізацыі органаў Саюзнай дзяржавы. Хто вінаваты? Расія.

Па ягоных словах, дагэтуль не вырашанае пытанне наладжвання дзейнасці Пастаяннага камітэта. «Больш цярпець такое нельга!», — падкрэсліў кіраўнік Беларусі і прапанаваў перанесці Пастаянны камітэт у Мінск – маўляў, больш карысці будзе. «Калі Расійская Федэрацыя не ў стане размясціць Пастаянны камітэт і наладзіць ягоную працу, давайце перавядзем яго ў Мінск. Мы зробім гэта на працягу аднаго месяца», — заявіў кіраўнік Беларусі і патлумачыў, што гатовы забяспечыць працоўнымі месцамі ў Мінску 100 чыноўнікаў з складу камітэта.

Куды больш нараканняў дасталося Крамлю за эканамічную палітыку.

А.Лукашэнка рэзка выступіў супраць гандлёвых аперацыяў саюзніка з беларускімі таварамі. Аказваецца, выбітнаму эканамісту А.Лукашэнку вельмі не падабаецца, што Расія перапрадае беларускія тавары далей – на Захад, у Індыю, Кітай, ЗША, ды яшчэ і даражэй, чым набыла ў Беларусі. Такім чынам, па словах А.Лукашэнкі, Расія «замінае» Беларусі праводзіць уласныя гандлёвыя аперацыі на іншых рынках.

*Заканчэнне на стар.3*

## Сустрэчы спікера Селязнёва

Напярэдадні прыезду ў Гродна старшыні расейскай Думы Селязнёва з камандай інтэгратараў у горадзе адбылася надзвычайная падзея. На чыгуначным вакзале была замураваная блокамі брама, праз якую пасажыры траплялі на перон да цягнікоў, а ў адваротным кірунку — на прывакзальную плошчу і на прыпынкі аўтобусаў. Цяпер высокія і шырокія каменныя ўсходы вядуць у глухі мур. На муры — гадзіннік, пад якім павесілі вялізны расейскі сцяг, а побач — у два з паловай разы меншы сцяг з беларускім арнаментам (абазначылі, што гатовыя здацца).

4 чэрвеня ў 14 гадзінаў на прывакзальнай плошчы адбыўся пікет, удзельнікі якога трымалі партрэты генерала Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, Завадскага, а таксама Карпенкі і Клімава. Пікет працягваўся 45 хвілінаў. Міліцыя затрымала Тадэвуша Гавіна, былога старшыню Саюза палякаў. На яго быў складзены пратакол.

Каля 15 гадзінаў каля аблвыканкама, дзе засядалі інтэгратары, сабраліся гараджане. Калі маскоўскія і менскія дэпутаты выйшлі на ганак, публіка пачала скандзіраваць: «Інтэгратарам — ганьба! Незалежнасць!» Скандзіраванне працягвалася хвілінаў шэсць. Людзі ў цывільным з КДБ і міліцыі, якіх было некалькі дзесяткаў, аказаліся зусім непадрыхтаванымі, бо не мелі пры сабе кляпаў. Але ніякім іншым чынам не дазволіць людзям выказаць свае адносіны да інтэгратараў было немагчыма. Рабіць жа гвалт і вэрхал на вачах дэпутатаў зусім не выпадала. Калі аўтобусы з дэпутатамі ад'ехалі, публіка пачала хутка разыходзіцца. Толькі тады з дзвярэй выйшаў Селязнёў са світаю.

Старшыня расейскай Думы захацеў у Гродне сустрэцца са студэнтамі. Маўляў, «маладыя вызначаюць будучыню». Чакалі яго ў медыцынскім універсітэце амаль гадзіну. А менавіта спазніўся ён са світаю на 55 хвілінаў. У нас, як заўжды, цэйтнот у парламенцкім сходзе, патлумачыў публіцы Селязнёў. Дарэчы, пляскалі з большым імпэтам не яму, а Барадзіну, які выглядаў больш свежым. Аднак слова яму не далі, увесь час гаварыў сам Селязнёў. А Барадзін разглядаў у зале публіку, а публіка — яго, асабліва жанчыны.

*Заканчэнне на стар.3*

# Канада не давярае Хвастову



Беларускага віцэ-прэм'ера, міністра замежных справаў Міхаіла Хвастова не вельмі вітаюць у Амерыцы. Па звестках з інфармаваных крыніцаў, ягоныя намаганні сустрэцца з калегаї з Канады не прывялі ні да чаго.

Учора ў сталіцы Коста-Рыкі Сан-Хасэ скончылася 31-я сесія Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Амерыканскіх Дзяржаваў (ААД). Там прысутнічала і беларуская дэлегацыя, але яе статус быў вельмі нізкі.

У адрозненне ад Украіны, Польшчы, Францыі і некаторых іншых дзяржаваў, дэлегацыі ад якіх таксама прысутнічалі на сесіі ў якасці назіральнікаў, беларуская дэлегацыя не змагла стаць такім назіральнікам. Усё, на што яна змагла разлічваць, – гэта «спецыяльны статус назіральніка». Такі статус азначае, што да беларускіх міжнародных чыноўнікаў паставіліся прыкладна такім самым чынам, як да замежных недзяржаўных арганізацыяў (NGO). Натуральна, што ніхто не стаў бы выстаўляць дэлегацыю Беларусі за дзверы сесіі, але прынялі яе як не вельмі пажаданага госця, – маўляў, сядайце ўжо, калі прыехалі. Легальнага статусу назіральніка дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам Беларусі не мела.

Мы даведаліся таксама, што Міхаіл Хвастоў рабіў выключныя намаганні, каб толькі сустрэцца з міністрам замежных справаў Канады сп. Мэнлі, які браў удзел у сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Амерыканскіх Дзяржаваў. Аднак намаганні аказаліся марнымі – сп. Мэнлі адмовіўся сустракацца з беларускім калегам. Прычына – няспынныя нападкі М.Хвастова на кіраўніка Кансультатыўна-назіральнай місіі АБСЕ ў Беларусі Ханса-Георга Віка. Пры гэтым раней беларускі віцэ-прэм'ер ужо абяцаў цяперашняму старшыні АБСЕ румынскаму міністру замежных справаў Мірчу Джаану гэтага больш не рабіць.

Цікава, што раней Міхаіл Хвастоў працаваў амбасадарам Беларусі ў Канадзе. Дасведчаныя крыніцы адзначаюць з гэтай нагоды: пасля трох гадоў знаходжання ў Атаве канадцы зусім не маюць даверу да М.Хвастова.

Праўда, не ўсе краіны на сесіі апынуліся такімі разборлівымі, як Канада. Паводле інфармацыі міністэрства замежных справаў Беларусі, адбыліся сустрэчы беларускай дэлегацыі з кіраўнікамі знешнепалітычных ведамстваў Барбадоса, Балівіі, Гаіці, Гандураса, Гаяны, Калумбіі, Коста-Рыкі і Парагвая.

Адзначым, што адным з асноўных пытанняў, што абмяркоўваліся на сесіі ГА ААД, былі правы чалавека.

Падарожжа такога высокага чыноўніка, як М.Хвастоў, на амерыканскі кантынент сведчыць пра тое, што Беларусі вельмі неабходна знайсці хоць некалькі краінаў-партнёраў у гэтым рэгіёне. Магчыма, што ягоная місія прынясе поспех, — некаторым паўднёваамерыканскім рэжымам таксама неабходна прызнанне еўрапейскай краіны. Нават калі гэта Беларусь.

Што ж датычыць беларускага віцэ-прэм'ера, то ўжо не першы раз перад ім бразгаюць дзвярыма высокія замежныя чыноўнікі. Па словах крыніцаў, блізкіх да кіраўніцтва АБСЕ, цяперашні старшыня гэтай арганізацыі Мірча Джаана адмяніў сустрэчу з М.Хвастовым, таму што той не выканаў сваю частку абавязацельстваў, неабходных для сустрэчы такога высокага ўзроўню. Ад кіраўніка беларускага знешнепалітычнага ведамства патрабавалася, па-першае, неадкладна спыніць публічную крытыку Х.-Г. Віка і, па-другое, дамовіцца аб арганізацыі візіту дзеючага старшыні АБСЕ ў Мінск на працягу гэтага тыдня. Пры гэтым, візіт сташныні АБСЕ мусіў уключаць сустрэчу з А.Лукашэнкам, сцвярджаюць нашы крыніцы. І дадаюць: М.Хвастоў канчаткова пазбавіўся шанца сустрэцца з М.Джаанам, калі выйшаў да т.зв. Нацыянальнага сходу і пахваліўся сваімі магчымасцямі пераканаць старшыню АБСЕ прыняць ягонага пасланца, а пасля працягнуў нападкі на Х.-Г. Віка. У выніку, сустрэча з М.Джаанам была адмененая.

Даведка: Арганізацыя Амерыканскіх Дзяржаваў – уплывовая міжнародная арганізацыя, асноўнай мэтай якой з'яўляецца ўмацаванне міру і бяспекі на амерыканскім кантыненце. У ААД уваходзяць 35 дзяржаваў Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## На «Дажынкі» пойдзе 4 мільярды

Улады вырашыліся з датай правядзення «Дажынак». Фестываль пройдзе ў Мазыры 26-27 жніўня. У горадзе гэтымі днямі будуць выстаўленыя чатыры кіламетры гандлёвых радоў. Каштарыс сёлетніх «Дажынак» – 4 мільярды беларускіх рублёў.

## У аўтсайдэрах

Паводле статкамітэта СНД, у студзені-красавіку 2001 года аб'ёмы грузаперавозак у Беларусі прадпрыемствамі транспарту ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам знізіліся на 12%. Гэта найгоршы паказчык сярод краінаў Садружнасці. Апрача Беларусі, тое самае адбылося яшчэ толькі ў Кіргізіі, але на 3%.

## Кіраўнікі прадпрыемстваў не маюць аптымізму

Паводле апытання, праведзенага Навукова-даследчым эканамічным інстытутам міністэрства эканомікі сярод кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў краіны, большасць з іх – 80% — не чакаюць паляпшэння эканамічнай сітуацыі на сваім прадпрыемстве. 46% лічаць, што яна не зменіцца, 34% — што пагоршыцца.

## Абітурыенцкі конкурс будзе высокі

Сёлета ў навучальныя ўстановы краіны больш высокі за мінулыя гады конкурс на ўступных экзаменах. Справа ў тым, што сярэднюю школу ў гэтым годзе закончаць на 9 тысячаў выпускнікоў болей, чымсьці летась.

## Пад пагрозай шаленства

Больш за сто чалавек разам звярнуліся ў медыцынскія ўстановы Слоніма. Усе яны аказаліся ў кантакце з шалёным лісянём. Сярод іх багата вайскоўцаў і вучняў сярэдняй школы №9. Справа ў тым, што лісяня жыло на тэрыторыі мясцовай вайсковай часткі, а потым патрапіла да школьнікаў.

## Інтэрнэт трохі патаннеў

Прыемная навіна для заўсёднікаў сусветнага сеціва: з чэрвеня на 15% патаннеў інтэрнэт для тых, хто карыстаецца ім праз беспарольны доступ. Новы тарыф будзе дзейнічаць у працоўныя дні з 8 да 20 гадзінаў.

### НАДВОР'Е

Віцебск +12 +16
Мінск +17 +21
Магілёў +12 +16
Гродна +18 +22
Брэст +19 +23
Гомель +12 +16

Крыніца: www.gismeteo.ru

### Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1390

# Інтэграцыйныя жарсці ў Гродне

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

Чарговае абвінавачванне – «падвоеныя стандарты». Расія не хоча ствараць роўныя ўмовы для беларускіх суб'ектаў гаспадарання. Па словах беларускага кіраўніка, на сённяшні дзень існуюць абсалютна розныя цэны на рэсурсы, нафту, электраэнергію, спажывецкія тавары і паслугі, тарыфы на чыгуначныя перавозкі. Гэта вельмі замінае стварэнню адзінай эканамічнай прасторы дзвюх дзяржаваў, падкрэсліў А.Лукашэнка. Асабліва яму не спадабаліся высокія транспартныя тарыфы пры пастаўках з Беларусі ў Расію прамысловай прадукцыі і сельскагаспадарчай тэхнікі. Такім чынам, на думку беларускага кіраўніка, не выконваецца дамова аб непадвышэнні тарыфаў.


Фота IREX/ProMedia

Ён нагадаў, што Беларусь са свайго боку прадастаўляе льготныя ўмовы для транспарціроўкі праз беларускую тэрыторыю расійскай нафты і газу. На сённяшні дзень кошт транспарціроўкі нафты складае, па словах А.Лукашэнкі, 2 долары за тону – тады як Украіна просіць у 4 разы, а Нарвегія – у 5 разоў больш.

Але самае вялікае незадавальненне выклікаў у А.Лукашэнкі расійскі праект аб лібералізацыі знешнегандлёвай дзейнасці. Як вядома, Расія хутка збіраецца ўваходзіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, а для гэтага неабходна паменшыць або адмяніць амаль усе пошліны.

Беларускі кіраўнік адзначыў, што калі гэтыя дзеянні адбудуцца без узгаднення з беларускім бокам, то «гэта будзе канец Саюзу».

У якасці прыкладу А.Лукашэнка ўзгадаў пра рашэнне Расіі панізіць увозныя пошліны для замежных тэлевізараў да 20%. «Такім чынам, тэлепрыёмнікі, што выпрабляюцца на тэрыторыі Беларусі і Расіі, стануць неканкурэнтаздольнымі ў параўнанні з замежнымі аналагамі, — паскардзіўся ён. – Мы ж дамовіліся аб падтрымцы нацыянальных тэлевізійных вытворчасцяў».

### «Беларусь – надзейны саюзнік»

«Горкую пілюлю» нападак на Расію А.Лукашэнка вырашыў крыху падсаладзіць. «Заяўляю пра тое, што Беларусь – надзейны і верны саюзнік Расіі», — сказаў А.Лукашэнка. Ён падкрэсліў, што ёсць дынаміка ў стасунках паміж Расіяй і Беларуссю. Ён паабяцаў, што не будзе адмаўляцца ад інвестыцыяў замежных прадпрыемстваў, але ў асноўным будзе арыентавацца на расійскі капітал.

Ён прапанаваў у новай аб'яднанай дзяржаве аддаць пасаду прэм'ер-міністра цяперашняму дзяржсакратару Паўлу Барадзіну, а месца старшыні аб'яднанага парламента – старшыні расійскай Дзяржаўнай Думы Генадзю Селязнёву. Трэба разумець, для сябе ён сціпла зарэзерваваў пасаду прэзідэнта.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Сустрэчы спікера Селязнёва

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

Селязнёў вальяжна паведаміў, што каля аблвыканкама, калі яны выходзілі, група маладых людзей скандзіравала «Незалежнасць!» — гэтае слова маскоўскі візіцёр вымавіў па-беларуску. Гэта канечне добра, але Украіна ўжо таксама хоча да нас далучыцца, 30 працэнтаў парламента, працягваў ён. Набегаліся, насёрбаліся незалежнасці, зазначыў высокі госць, ніхто нас, асабліва славянаў, нідзе не чакае. Вось Еўрасаюз стварае пасутнасці мадэль СССР. У іх еўра — адзіная манета. У нас таксама была адзіная. Вось наш парламенцкі сход — 36 дэпутатаў ад Расеі, 36 ад Беларусі якраз і займаецца стварэннем саюзнай дзяржавы. У наступным годзе будзе абірацца прафесійны парламент саюзнай дзяржавы. Але патрэбны спецыяльны заканадаўчы акт, паколькі ў нашых канстытуцыях няма пунктаў аб саюзнай дзяржаве і парламенце.

Ну, я тут паездзіў, наведаў прадпрыемствы, паведаміў далей госць. І гэта выклікала ў яго думкі аб Ірландыі. Маўляў, таксама аграрная краіна недзе на водшыбе. А зараз бурна развіваецца. Нават яе называюць кельцкім тыграм. Яна цалкам сябе забяспечвае. А 40 працэнтаў бюджэту ідзе на навуку, адукацыю, на сучасныя тэхналогіі. І цяпер ім спатрэбілася прыцягнуць спецыялістаў з замежжа, 250 тысяч. Расейцаў там ужо нямала працуе, можа і беларусы ёсць, зрабіў дапушчэнне думскі старшыня. Ну, але ў Расеі з сістэмай адукацыі не ўсё гладка, жывем на старых дражджах. Адчуваецца недафінансаванне. Вось думаем стварыць сумесную беларуска-расейскую вну на базе Беларускага дзяржуніверсітэта і Санкт-Пецярбургскага. Будзе падрыхтоўка па новых спецыяльнасцях, якія спатрэбяцца ў новай саюзнай дзяржаве. Украінцы можа таксама хацелі б, але выбудоўваецца мяжа, без пашпарта не прапусцяць. Народу гэта «противно»... Селязнёў, праўда, не патлумачыў, якія гэта адмысловыя спецыяльнасці спатрэбяцца ў іхняй сумеснай дзяржаве. Увогуле, з ягоных словаў вынікала, што Беларусі варта арыентавацца на Ірландыю, а зусім не на Расею.

Затым былі адказы на пытанні. Напрыклад. Ці будуць беларусы накіроўвацца ў гарачыя пункты Расеі? Быццам былі перамовы наконт гэтага. Селязнёў, аднак, нічога не ведае аб такіх перамовах. Паводле яго, афіцыйна такой палітыкі няма. Можа хіба што кантрактнікі туды трапляюць. Аднак яны быццам бы атрымліваюць 850 рублёў у суткі. Мы не можам ім забараніць, бо ў нас саюзная дзяржава, сказаў старшыня Думы.

Наконт навуковых стажыровак у расейскіх вну Селязнёў нічога не змог адказаць. Ці могуць беларусы разлічваць на бясплатную медычную дапамогу ў вядучых расейскіх цэнтрах? Селязнёў нічога канкрэтнага зноў жа адказаць не здолеў. Толькі сказаў, што нават для расейцаў такая меддапамога часта занадта дарагая. Карацей, намёк быў зразумелы. Хаця, як сказаў ён, у асобных выпадках дапамогу «прабівалі» праз парламент. Але навошта беларусам гэткія «шчадроты»?

У госця пацікавіліся, ці будзе на бліжэйшых Алімпійскіх гульнях агульная зборная? І пачулі філасафічна-расплывісты адказ: вось каб яшчэ Украіну далучыць... Аднак агульная зборная не прадугледжана, паколькі ў агульнай дзяржаве дзве яе асобныя часткі не растварацца. Хіба што стварыць асобную — саюзную зборную. Вось такія мудрагеліста-прыблізныя развагі пачулі прысутныя.


Фота IREX/ProMedia

А што думае ён пра Паўночнаатлантычны блок? Вось знік Варшаўскі дагавор, павінна было растварыцца і *NATO*, аднак гэтага не адбылося, зазначыў госць. Расея ўдзельнічае ў якасці назіральніка ў асамблеях. Але на сустрэчу ў Вільні не паехалі, бо рускія супраць уступу ў блок балтыйскіх краінаў.

Трэба прыдумаць добрую назву нашай агульнай валюце, выказаў клопат Селязнёў. Як жа яна будзе называцца — русабел, беларус? — задумаўся ён, праўда жартаўліва. Тады нехта з прэзідыума прапанаваў: рубел. Сапраўды — лепей не прыдумаеш! На розвіт Селязнёву падаравалі пано з выявай Каложскай царквы. А ён у адказ — бронзавую плакетку з выявай Дзярждумы Расеі і альбом пра маскоўскі Крэмль. Відаць, каб ведала чынавенства, куды хадзіць кланяцца.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Яны як і мы...

## *(Вопыт інтуітыўнага выкрыцця сапраўднага рухавіка расійска-беларускай інтэграцыі)*

*Расія і Беларусь. Два суседы, два хаўруснікі, два вечныя гарапашнікі. Няшчасныя народы, злоўленыя ў пастку вялікадзяржаўнасці, ксенафобіі, сярэднявечча, дзікасці, алкагалізму і наркаманіі.*

Грамадствы, падзеленыя на два лагеры – дзяржаўных крымінальнікаў і бяспраўных шараговых парабкаў. Тандэм рэваншысцкіх манархічна-камуністычна-шавіністычных сілаў. Аб'яднаная Залатая Арда, пастаўленая насуперак Аб'яднанай Еўропе. Сусветныя галадранцы з ракетнай ядзернай зброяй, якія жывуць за кошт продажу сваіх прыродных рэсурсаў, крадзяжу чужых тэхналогіяў і міласціны цывілізаваных краінаў. Дэгенератыўныя праваслаўныя фундаменталісты, якія не вераць у Хрыста, не трымаюцца Яго запаветаў, але будуюць цэрквы Яму і запальваюць там свечкі перад выявамі крывавых маскоўскіх цароў.

Беларусь і Расія. Дзвесце гадоў супольнага жыцця пасля акупацыі Расіяй народаў Вялікага Княства Літоўскага. З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Мы набраліся ад суседа выключнай, візантыйскай, напыхлівай, празмернай, «свяшчэннай» павагі да бюракратыі і татальнай, катастрафічнай непавагі да чалавека. Правы асобы ў гэтым альянсе проста не ўважаюцца. Чалавек тут драбнейшы за жывёлу. Чалавек існуе выключна для дзяржавы, а дзяржава існуе для бюракратыі. А бюракратыя жыве сама для сябе, па сваіх сатанінскіх законах. Яна, як пякельная ненажэрная пачвара, праглынае мільёны людзей і выплёўвае іхнія косткі на сметнік.

За дзвесце гадоў прымусовай любві ў беларусаў сапраўды стала многа агульнага з расіянамі. Дзвесце гадоў супольнага існавання праз войны, голад, прыгнёт, хлусню, падзелы і перадзелы, перасяленні, лагеры, расстрэлы, бальшавізм, калгасы, пяцігодкі аднолькава трывала расчалавечвалі нас. Гэтак трывала, што калі нават прыйшла да нас свабода выбару, Расія і Беларусь адразу не прынялі яе і ўзбіліся па інерцыі на старую дарогу.

Дзвесце гадоў – вялікі тэрмін для любога народа. За дзвесце гадоў да сусветнай славы падняліся Злучаныя Штаты Амерыкі. За дзвесце гадоў у свеце адбыліся тры навукова-тэхнічныя рэвалюцыі, прашумелі некалькі пакаленняў, згінулі і стварыліся дзесяткі дзяржаваў. Аднак дзвесце гадоў было вельмі мала, каб мы ўсе перасталі быць беларусамі. Хапіла невялічкай перадышкі ад вялікадзяржаўнай гістарычнай хлусні, каб нам зноў акрыяць, ачысціць генетычную памяць і паверыць у сваю будучыню як сучаснага еўрапейскага народа. Справа засталася за галоўным: крок за крокам арганізаваць жыццё краіны ў рэчышчы паступовага нацыянальнага і эканамічнага прагрэсу. Нам вельмі многа трэба зрабіць і нельга губляць час на непаразуменні. І менавіта ў гэтую пару да вярхоўнай улады ў краіне прарваліся антыбеларускія вялікадзяржаўныя шавіністычныя сілы са свядомай задачай знішчыць нацыянальны дзяржаўны Рэнесанс. Мы хутка адчулі, што бюракратыі абедзвюх дзяржаваў – Беларусі і Расіі - імгненна знайшлі паразуменне менавіта на гэтай глебе. Яны сапраўды аб'ядналіся і пачалі жывіць адно аднаго. Так неўзабаве ўзнікла ўяўнае кансалідаванае супрацьстаянне імкненню нашай нацыі да свабоды. Беларусы раптам апынуліся пад новай навалай усёй злучанай вялікадзяржаўнай бюракратыі расійскай імперыі. Хай нікога не падманвае новы імідж Расіі як дэмакратычнай краіны. Не бывае дэмакратычнай дзяржава, пабудаваная на інтарэсах бюракратыі, а не асобы.

Такім чынам, беларускія патрыёты сёння павінны дакладна ведаць, супраць якога ворага, якой сусветнай пачвары яны выступаюць. Гэта, вядома, не Расія, не рускія і не расіяне — гэтакія ж, як і беларусы, ахвяры вялікадзяржаўнай імперскай бюракратыі, праваслаўнага фундаменталізму, татальнага прамывання мазгоў, хлуслівай гісторыяграфіі і дэмагогіі. Змагацца з гэтай пачварай магчыма толькі пры дапамозе нацыянальнай годнасці, свядомасці, яднання, веры ў перамогу дабра і праўды, калектыўнай волі да адраджэння беларускай дзяржавы і культуры. Неабходна пакідаць млявасць і паказваць ліцвінскі характар, калі ён яшчэ ёсць. Трэба зразумець, што беларусам няма чаго дзяліць паміж сабой, што трэба падтрымліваць адзін аднаго, быць аптымістамі, спрыяць высілкам, накіраваным да росквіту культуры і нацыянальнай лучнасці. (Менавіта гэтага зараз вельмі не стае нам, калі глядзець у вочы праўдзе). Цалкам магчыма, што гісторыя наканавала нам падарваць глыбінныя сілы вялікадзяржаўнага бюракратычнага расійскага шавінізму, як некалі расійска-японская вайна падарвала падмуркі раманаўскай манархіі, і паспрыяць вызваленню ад яго ўсіх народаў Расіі.

Неверагодным глупствам будзе паддацца нам на прымітыўны нацыяналізм, да якога падштурхоўваюць беларусаў цяперашнія ўладныя бюракратычныя шавіністы, здзекуючыся з нацыянальных сімвалаў, мовы, культуры. Гэтыя прымітыўныя правакацыі, кшталту незразумелых выбухаў пад плотам пасольства Расіі, дэманстратыўная дыскрымінацыя ўсяго беларускага, кпіны з нашых нацыянальных лідэраў – усё гэта ад слабасці і крывадушнасці цяперашняга рэжыму. Яму няма чаго супрацьпаставіць імкненню народа да свободы і нацыянальнага адраджэння. Яму хочацца капітальна нацкаваць беларусаў на рускіх, а рускіх на беларусаў. Відаць, імпербюракраты хочуць злавіць новы шанец для сваёй алігафрэнічнай «інтэграцыі».

Расія і Беларусь. Мы і надалей будзем блізкімі суседзямі, таварышамі па супольнай і вельмі цяжкай гісторыі. Непазбежна мы будзем эканамічнымі хаўруснікамі. Але кожны ў сваёй гаспадарцы і з вялікай пашанай да суседа. Як сваякі і добрыя прыяцелі.

**Аляксандар ДУБРАВІН**

# Непальцы требуют правды

*В Непале усиливаются беспорядки. Тысячи демонстрантов требуют расследования обстоятельств гибели королевской семьи. В то время как полиция разгоняет стихийные митинги, новый король Гьянендра обещает тщательно расследовать все обстоятельства трагедии.*

Сейчас на улицы Катманду вышли тысячи людей. Информационные агентства сообщают, что действия демонстрантов становятся все более агрессивными. Десятки людей на мотоциклах разъезжают вблизи королевского дворца, скандируя «Смерть убийцам!». Там же собрались тысячи непальцев, требующих начала крупномасштабного расследования обстоятельств гибели королевской семьи. По последним данным, полиция уже применила для разгона демонстрации слезоточивый газ.

Сообщается также, что власти страны распорядились закрыть границу с Индией. По словам свидетелей, на индийской стороне у пропускного пункта Патанки в 35 км к северу от города Силигури уже образовалась длинная очередь грузовиков. Новый непальский король Гьянендра также обратился к индийскому правительству с просьбой усилить охрану границы и никого не пропускать.

В Непале между тем состоялись похороны короля Бирендры и членов королевской семьи. В стране объявлен пятидневный траур. Между тем, ясности относительно причин побоища, произошедшего в королевском дворце в субботу, так и нет. Согласно первоначальной информации, восемь членов монаршей фамилии погибли от рук 29-летнего наследного принца Дипендры. Инцидент произошел во время ужина. Дипендра, как следовало из воскресных сообщений, хладнокровно расстрелял из автомата своего отца, мать и других родственников. Действия принца объясняли тем, что он не получил согласия родителей на его брак с дочерью министра бывшего правительства Непала. Сегодняшняя *The Hindustan Times* сообщает, что министр и его дочь были выходцами из Индии. Именно из-за этого, согласно газете, родители Дипендры отказали ему в благословении. Британская *The Times* уточняет, что «пьяного и разгневанного» принца вывело из себя предложение королевы Айшвары подыскать другую невесту.

Как известно, расстреляв семью, Дипендра выстрелил себе в голову и через двое суток умер, не приходя в сознание. Однако находящегося в коме Дипендру успели провозгласить королем Непала, а официальные непальские СМИ сообщили, что «оружие разрядилось самопроизвольно», то есть королевская семья погибла «в результате случайной перестрелки». В чьих руках оно находилось, вообще не сообщалось.

Принц Гьянендра при этом был назначен регентом при умирающем Депендре. Несколько часов назад Гьянендра был коронован. В своем первом обращении к непальцам Гьянендра пообещал провести расследование всех обстоятельств трагической гибели своих родственников. Его сообщение передали по всем радио- и телеканалам. Непальцев, однако, обещания нового монарха не удовлетворили, и они вышли на улицы.

**Василий СЕРГЕЕВ**

# Молчание китайских интеллектуалов

**Перри Линк, преподаватель китайского языка и литературы Принстонского университета**

*Кризис, развернувшийся из-за американского шпионского самолета, показал, что общественное мнение в настоящее время имеет большое значение в Китае. Но какие позиции занимают китайские интеллектуалы и какую роль они играют?*

В 1980-х годах вернулось традиционное китайское уважение к образованию после бедственных лет правления Мао. Согласно Конфуцию, высшее призвание интеллектуала – говорить правителю, что является самым лучшим для его королевства, убеждать ли – или если кто отважится – критиковать, и потом иметь дело с последствиями. В 1979 г. Лиу Биньян в своей работе «Люди или монстры?» объяснил, как коммунизм порождает коррупцию; в 1988 г. фильм «Река Элегия» Су Чаоканга показал, что некоторые аспекты примитивного деспотизма, господствующие еще в императорском Китае, сохранились до сих пор в коммунистической партии. Эти произведения, а также другие работы 80-х годов загипнотизировали общественность.

По сравнению с этим годы после вооруженного разгона студенческой демонстрации на площади Тьенанмен в Пекине кажутся политически и интеллектуально инертными. После 1989 г. Китай, казалось бы, потерял свой моральный компас. В то время, когда сознание интеллектуалов могло быть очень полезным, они молчали. Почему?

Одной причиной являются репрессии. Строгие запреты удержали общественность от обсуждения таких вопросов, как культурная революция, демонстрация на площади Тьенанмен, Фалун Гонг или других событий, которые понимались как меры, необходимые для соблюдения законности режима и сохранения власти. Более того, большинство ведущих общественных интеллектуалов Китая 80-х годов покинули страну после 1989 г. Нужно было время, чтобы появилось новое поколение интеллектуальных лидеров.

Развал социалистической морали и неспособность режима найти ей достойную замену создали «вакуум ценностей», который люди старались заполнить разными способами. Фалун Гонг прогремел так же, как христианство и другие религии. Некоторые поддержали национализм и шовинизм. Современные интеллектуалы приняли все эти направления. В добавление к этому, литературные интеллектуалы, которые открыли путь критике в 80-е годы, оказались добычей западного постмодернистского жаргона, хотя такие проявления почти не нашли отклика в Китае.

В настоящее время интеллектуалы, обладающие коммерческими качествами, используют их для того, чтобы заработать на своем бизнесе больше, чем они когда-либо могли, занимаясь наукой. Социальный и экономический статус более состоятельных интеллектуалов уступает только должностным лицам коммунистической партии и новым супербогачам. Более того, расширились границы тех свобод, которые высоко ценят интеллектуалы, таких, как свобода слова, публикаций и передвижения. Новые подкультуры и даже публикации процветают до тех пор, пока им удается обходить политически чувствительные темы. Короче говоря, стремление к личному комфорту привело к политической пугливости и самодовольству.

Все же экономический подъем создал отвратительную пропасть между богатыми и бедными, и возникшие новые политические и нравственные вопросы показывают, что еще жива традиция китайских интеллектуалов «беспокоиться о своей нации». Как, спрашивают они, мы можем принять тот факт, что новые богачи нажили свое богатство, используя свою власть, чтобы воровать государственную собственность? И независимо от того, как они нажили свое богатство, интеллектуалы интересуются, сможет ли общество принять те гротескные несоответствия, которые стали результатом этого?

Эти вопросы создают трудную дилемму для тех интеллектуалов, которые приветствуют открытие Китая для Запада. Действительно, Запад предлагает модели демократии, власть закона, свободную прессу и другие средства, с помощью которых можно решить любую несправедливость; но в то же время Запад как раз и создал такую капиталистическую модель, которая породила эту несправедливость. Таким образом, вы – за дальнейшее внедрение западного образа жизни или нет?

Результатом стал спутанный спектр различных нечетких мнений. «Новый левый» поддерживает бедных, но при этом хочет отличаться от авторитарного «старого левого». Либералы разделились на левое и правое крыло, главным образом, из-за вопроса – общественное правосудие против политической свободы. В связи с этими сложностями китайским интеллектуалам стало намного труднее, чем до 80-х гг., говорить в унисон и найти свое место в обществе. Основные вопросы того времени – «больше реформ» и «больше открытости Западу» – не были отягощены неопределенностью и противоречивостью.

К сожалению, руководство Китая, глубоко неуверенное в себе, не расположено к тому, чтобы прислушаться к совету. В конце прошлого года был наложен запрет на публикации десяти ведущих интеллектуалов. Несколько интеллектуалов были уволены с государственных постов. В действительности противостояние является сейчас скорее исключением, а не правилом. Но правительство все еще не желает ничего слушать.

**© Project Syndicate, май 2001.**

## Бурштынавая надзея

З 28 жніўня да 6 верасня ў Літве адбудуцца вайсковыя вучэнні «Бурштынавая надзея-2001», у якіх возьмуць удзел вайскоўцы з ЗША, Вялікабрытаніі, Даніі, Італіі, Нямеччыны, Швецыі, Фінляндыі, Польшчы, а таксама краінаў Балтыі – Літвы, Латвіі ды Эстоніі. Вучэнні пройдуць на палігонах Рукле і Падброддзе, недалёка ад беларускай мяжы. Апроч вайскоўцаў плануецца ўдзел у вучэннях прадстаўнікоў цывільных арганізацыяў: Міжнароднага Чырвонага Крыжа, Літоўскага Чырвонага Крыжа, Бюро Камісара ААН у справах уцекачоў. Мэта вучэнняў – удасканаленне супрацоўніцтва вайскоўцаў і цывільных арганізацыяў падчас правядзення міратворчых аперацыяў.

**Кася КАМОЦКАЯ**
**Вільня**

## Музычны фестываль у Літве

З 27 траўня па 4 ліпеня праходзіць найбуйнейшы ў Літве Віленскі музычны фестываль.

Ён адкрыўся канцэртам сусветна вядомага сімфанічнага аркестра Санкт-Пецярбургскага Марыінскага тэатра пад кіраўніцтвам дырыжора В. Гергіева. Сярод гасцей фестывалю – маладзёжны сімфанічны аркестр з Сан-Францыска, ансамбль «Страсбургскія ўдарныя інструменты», скрыпач Максім Вянгераў, джазавая зорка Хэрбі Хэнкак ды іншыя. На жаль, няма ў афішах беларускіх калектываў ды выканаўцаў.

**Кася КАМОЦКАЯ**

## Черногория не дала выдать Милошевича

Президент Югославии Воислав Коштуница и правительство страны не смогли договориться с социалистической партией Черногории относительно проекта закона, согласно которому Слободана Милошевича можно было бы выдать Международному трибуналу ООН, сообщает *BBC News*.

Обе договаривающиеся стороны согласны в том, что сотрудничать с Международным трибуналом необходимо, так как это является одним из условий получения международных кредитов для восстановления страны, однако расходятся во взглядах на то, как именно должно выглядеть это сотрудничество.

В частности, большие разногласия вызывает законопроект о выдаче Международному трибуналу в Гааге лиц, подозреваемых в военных преступлениях. После нескольких часов напряженных переговоров министр юстиции Югославии Владан Батич заявил, что никакого соглашения по этому поводу так и не было достигнуто.

Глава социалистической партии Черногории, со своей стороны, подтвердил, что разногласия есть, но призвал не драматизировать ситуацию. «Мы хотим сотрудничать с Международным трибуналом, и мы считаем, что можно принять такой закон, но он не должен сводиться просто к выдаче югославов Гаагскому трибуналу», – заявил он.

***BBC***

## Нового президента Перу уже уличили в наркомании

В Перу определился победитель внеочередных президентских выборов. Им стал экономист Алехандро Толедо. Экс-президент страны Алан Гарсия уже признал свое поражение и поздравил своего соперника с победой. Международные наблюдатели сочли, что Толедо победил в честной борьбе.

Победа 55-летнего экономиста, лидера движения "Перу посибле" Алехандро Толедо стала очевидной после подсчета 80% бюллетеней, поданных избирателями в это воскресенье. К этому моменту отрыв Толедо от своего основного соперника – руководителя Перуанской апристской партии Алана Гарсия составил 4% (52% против 48%).

Гарсия не стал настаивать на пересчете голосов и, не дожидаясь подведения окончательных итогов, поздравил соперника с победой.

Сторонники Алехандро Толедо уже приступили к празднованию победы, также не дождавшись официальных результатов выборов.

Международные наблюдатели, между тем, констатировали, что выборы в Перу были предельно честными и демократическими. В этом они кардинально отличались от предыдущей избирательной кампании, в ходе которой Алехандро Толедо боролся за президентское кресло с бывшим главой Перу Альберто Фухимори. Напомним, что в ходе прошлогодних выборов полномочия Фухимори были продлены, несмотря на многочисленные протесты наблюдателей, которые зафиксировали подтасовки в ходе подсчета голосов, обвинили Фухимори в использовании в личных целях подконтрольных государству телеканалов и раздаче продуктов накануне голосования. А Организация американских государств вообще не признала победу Фухимори легитимной, поскольку переизбрание президента на третий срок противоречит перуанской конституции.

Третье по счету президентство Фухимори, однако, продлилось недолго. Опасаясь преследования в связи с обвинениями в коррупции, он бежал в Японию в ноябре прошлого года. Там он объявил о своей отставке, объяснив свое решение тем, что «не хочет мешать процессу демократизации Перу».

В понедельник Алехандро Толедо выступил на митинге в центре Лимы. Он призвал население к общенациональному согласию в целях укрепления демократии и обеспечения развития экономики. Большинство перуанских СМИ отмечают сегодня, что с победой Толедо создаются предпосылки для возрождения демократических институтов в стране.

Толедо, по мнению перуанских журналистов, одержал победу благодаря обещаниям победить безработицу и начать широкие экономические реформы.

Однако журналисты также напоминают о том, что репутация Толедо, получившего экономическое образование в США и работавшего в качестве консультанта Всемирного банка, вовсе не безупречна. По информации *Reuters*, Толедо не признает отцовства 13-летней девочки, мать которой через суд требует, чтобы Толедо как можно скорее начал выплачивать ей алименты. Другим компрометирующим Толедо обстоятельством является тот факт, что он, по меньшей мере, один раз баловался кокаином. В местной прессе сообщается, что некоторое время назад анализы на наличие наркотиков в крови нового президента оказались положительными.

**Василий СЕРГЕЕВ**

# Маршал, который победил Сталина

## Советский Союз вступил во Вторую мировую войну 17 сентября 1939 года. До столкновения с немцами Красная армия намеревалась завоевать Финляндию

*После войны 1939–1940 года Финляндия потеряла территорию, где проживали 15 процентов населения, «финский Сочи» — Сортавалу, город, где летом временами можно даже загорать, самые плодородные свои земли, у русских признанные вообще «непригодными для сельского хозяйства»...*



Но в кровавой, казалось, безнадежной войне финны отстояли самое дорогое — свое независимое государство. Финляндия так никогда и не стала ни «советской», ни «народной» республикой, ни сателлитом СССР. Энкавэдисты так и не смогли провести массовые депортации «контрреволюционных и антисоветски настроенных элементов» из этой страны, никто никогда не загонял в колхозы хуторян Похьойс-Карьялы или Кески-Суоми, секретари парткомов не распинали лучших представителей интеллигенции за «националистические уклоны», а работяги Хельсинки не теряли постепенно человеческое подобие под влиянием всеобщего скотства советской жизни.

Всем этим финны обязаны Карлу-Густафу-Эмилю фон Маннергейму, маршалу и главнокомандующему, регенту государства и президенту республики.

### Сталинские планы

Заключенный в августе 1939 года Пакт Молотова — Риббентропа, согласно которому два хищника — гитлеровская Германия и сталинский СССР — поделили сферы влияния в Восточной и Центральной Европе, принес неисчислимые страдания народам этого региона. Определил этот пакт и будущее Финляндии. Она должна была «влиться в братскую семью советских народов». Гитлер согласился, чтобы Советский Союз захватил «страну тысячи озер».

Осенью 1939 года, после совместного немецко-советского парада в Бресте, Советский Союз в ультимативной форме предложил Литве, Латвии, Эстонии и Финляндии заключить новые «Договоры о дружбе и взаимной помощи». Договоры предусматривали оккупацию всех четырех стран «ограниченными» контингентами советских войск, прекращение «антисоветской политики» — фактическое превращение всех этих малых государств в советских сателлитов. И это только на первом этапе. Руководители бывших русских колоний обратились за помощью и поддержкой и к Германии, и к Британии с Францией. (Но как раз началась «странная война» на Западе.) Нацисты грубо ответили, что балтийцы должны слушаться Сталина, а французы и британцы выразили протесты, которые Сталин проигнорировал. Так что 28 сентября Эстония, 5 октября Латвия и 10 октября 1939 года Литва фактически капитулировали, подписав предложенные договоры. Руководители этих стран верили и не верили лживым советским обещаниям о «невмешательстве» во внутренние дела, «уважении суверенитета» и тому подобному. Они были жестоко наказаны за свою слабость, доверчивость и надежды «как-то договориться» — практически вся довоенная политическая элита балтийских государств погибла в сибирских лагерях, а народы испытали бесчисленные страдания за 50 лет советской оккупации. Уже летом 1940 года государственность трех стран Балтии была ликвидирована, и Советский Союз их аннексировал. Капитулянтская позиция их руководства позволила выстроить миф о «добровольном воссоединении» этих стран с СССР.

### Зимняя война

И только Финляндия наотрез отказалась подписать договор, который вновь превратил бы ее фактически в советскую колонию. Это было 5 октября 1939 года — в тот же день, когда капитулировала Латвия. Сталин не ожидал подобного «упрямства» со стороны крохотной страны, в 55 раз (!) уступавшей по населению Советскому Союзу. Тем не менее уже 14 октября СССР предложил Хельсинки «компромиссный» вариант. Финнам предлагалось сдать в аренду на 30 лет порт Ханко для устройства там советской военно-морской базы, передать СССР несколько островов в восточной части Финского залива, большую часть Карельского перешейка и полуостров Рыбачий на севере — всего 2.761 кв. км в обмен на 5.529 кв. км советской территории в Карелии. Сперва новые советские предложения вызвали разногласия среди финляндского руководства. Будущий президент страны Юхо Паасикиви, возглавлявший финскую делегацию, назвал их «умеренными» и склонялся к тому, чтобы их принять. Однако против этого самым решительным образом выступил Маннергейм. Дело заключалось даже не в том, что взамен за самые густонаселенные (по финским, разумеется, меркам) районы страны предлагались безлюдные леса и болота в Карелии. Советский Союз хотел без боя занять знаменитую «линию Маннергейма». В этом случае и так невысокие шансы финской армии на успешное сопротивление в случае советской агрессии сводились практически к нулю. Сталин пытался использовать опыт своего союзника Гитлера, за год до этого заставившего Чехословакию сперва «добровольно» отказаться от Судетской области вместе со своими оборонительными сооружениями, а через полгода захватил беззащитную страну. И потому 9 ноября финны отклонили и второе советское предложение.

В 20-х числах ноября в советских газетах появились сообщения о «постоянных провокациях белофинской военщины на советской границе», о «восстании финских трудящихся против буржуазного режима», а 28 ноября — сообщение о «рабоче-крестьянском правительстве», якобы созданном в каком-то городе на юго-востоке Финляндии. И 30 ноября советские «освободители» отправились «на помощь» этому мифическому правительству. Сталин и не скрывал, что решил подвергнуть Финляндию показательному наказанию за неуступчивость. Речь шла уже не об «отодвигании» границы, проходящей в «опасной близости к Ленинграду», а о завоевании маленькой страны. В этот день на трибуне Мавзолея рядом со Сталиным стоял «выдающийся деятель международного коммунистического движения» первый секретарь Коммунистической партии Финляндии Отто Куусинен, которому заранее отвели роль кремлевского сатрапа в покоренной Финляндии. Сталин приказал войскам Ленинградского военного округа в течение двух недель сломить сопротивление финской армии и оккупировать всю Финляндию. Так началась одна из самых позорных войн в истории XX столетия. Любопытно, что никогда потом ни в одном советском источнике не встречались упоминания о «рабоче-крестьянском правительстве», на помощь которому двинулись советские освободители.

Героическое, всенародное, самоотверженное сопротивление, оказанное самозванным «освободителям» крохотной нацией, сделал эту пропагандистскую версию абсолютно неприемлемой. Тем не менее еще и сейчас, через 10 лет после падения коммунистической власти, российские историки в один голос утверждают, что «причиной возникновения Советско-финской войны стала неуступчивая позиция Хельсинки, не учитывавшего пожелания советской стороны о территориальных приобретениях на Карельском полуострове и некоторых островах Финского залива». О настоящей причине войны — желании финнов защитить свою свободу и независимость, само существование своего государства от грубой и неспровоцированной агрессии — даже не упоминается.

С советской стороны, по нынешним оценкам Москвы, в войне участвовали около 1 млн. военнослужащих. По некоторым западным данным, их было до 1,5 млн. Маршал Карл Маннергейм имел намного меньшие силы. Общая численность его войск составляла 300 тысяч человек, но только 50 тыс. относились к регулярной армии. Остальные — ополченческие формирования. Еще разительнее было соотношение сил по артиллерии, бронетехнике. Что касается авиации, то «сталинские соколы» полностью господствовали в воздухе — Финляндия фактически не имела боевой авиации.

И несмотря на это, войска маршала Маннергейма три с половиной месяца героически сопротивлялись советской военной машине. Только в битве под Суомуссалме в декабре 1939 — январе 1940 годов были практически полностью уничтожены 163-я и 44-я пехотные советские дивизии. В итоге советские войска потеряли под Суомуссалве свыше 27 тысяч человек убитыми и замерзшими, а потери финнов составили 900 человек. Сталина, находившегося в состоянии некоторой эйфории после победной прогулки советских войск по Западной Украине и Беларуси и после сокрушительного поражения японцев на Халхин-Голе, будто бы окатили холодным душем.

Общая длина «линии Маннергейма» составляла 135 километров — от Ладожского озера до Финского залива, а глубина — 95 километров. Она включала в себя передовую (зона заграждений), главную, вторую и тыловую полосы обороны, две промежуточные полосы и отсекающие позиции.

7 января 1940 года создается Северный фронт, на Карельский перешеек бесконечным потоком гонят войска и технику. В конце концов, огромное численное и техническое превосходство советских войск приносит результаты — через 3,5 месяца отчаянных боев все полосы «линии Маннергейма» в западной ее части были прорваны, и 13 марта советские войска взяли город Виипури (с того времени превратившийся в «русский город Выборг»). Дорога на Хельсинки была открыта. И все же Сталин согласился с просьбой финского правительства о прекращении боевых действий, и еще 12 марта (за день до взятия Виипури) был подписан фактически без обсуждения, «не читая» советско-финский мирный договор. Согласно ему Финляндия теряла весь Карельский перешеек и побережье Ладожского озера, некоторые районы в Карелии и на Севере, отдавала все-таки СССР в аренду полуостров Ханко. Казалось бы, Сталин победил в войне, получив больше, чем он требовал в ноябре 1939-го. Но почему же он отказался от полного завоевания Финляндии?

На самом деле война закончилась позорным поражением СССР. Финские войска потеряли погибшими 24.900 человек (очень существенные потери для такой маленькой страны, почти 1 процент населения). Однако красноармейцев только погибло от 150 до 200 тысяч (точные данные о потерях советских войск в этой «малой» войне и до сих пор остаются тайной). Еще сотни тысяч раненых и обмороженных. Версия о добровольном вхождении Финляндской Советской Социалистической Республики в состав СССР, о рабочих и крестьянах, со слезами радости на глазах встречающих советских воинов-освободителей, никак уж не проходила. А ведь Сталин вел большую игру. Он надеялся, в конце концов, «освободить» всю Европу, если не весь мир. И потому тогда, в самом начале Второй мировой, он не мог нанести такой удар по имиджу СССР как «освободителя народов». Советизацию Финляндии отложили на потом. Это «потом», к счастью, так никогда и не наступило.

### Война и мир

Зимняя война 1939—1940 годов, в которой Маннергейм отстоял независимость своей страны от Сталина, имела последствия не только для Финляндии. Обозленный огромными потерями и позорной неспособностью быстро победить настолько более слабого противника Сталин выгнал с должности наркома обороны «железного» Климента Ворошилова. А Гитлер, внимательно следивший за «успехами» своего нового союзника на Карельском перешейке, по итогам Зимней войны изрек: «Советский Союз — колосс на глиняных ногах».

После Зимней войны Финляндия начала понемногу зализывать раны, размещать людей, изгнанных из своих домов на захваченных Советами землях, строить какие-то укрепления на новой восточной границе. Но немногим более чем через год началась немецко-советская война. Уже силой самих обстоятельств «обрезанная» Советским Союзом Финляндия была втянута в войну на стороне Германии. Финны вышли на свою старую границу на Карельском перешейке, замкнув с севера кольцо блокады Ленинграда, и оккупировали районы советской Карелии, населенные преимущественно карелами (большинство из которых, кстати, в 1944 году ушли на территорию Финляндии вместе с «захватчиками»). Тем не менее, Гитлер высказывал серьезное недовольство действиями своего северного союзника, требуя от него либо повысить активность под Ленинградом, либо перерезать Мурманскую железную дорогу, являвшуюся одной из основных артерий доставки англо-американских товаров по ленд-лизу.

Маннергейм не проявлял чрезмерной активности. Он был отнюдь не в восторге от нацистского режима, и в союзники Гитлера его загнала лишь злая судьба. Маршал Финляндии (это звание он получил как подарок к 75-летию 4 июня 1942 года) искал возможности вывести свою страну из войны, сохранив земли, захваченные СССР в 1940 году. Это, конечно, была программа-максимум. Как минимум нужно было сохранить государство как таковое. После перелома в войне под Сталинградом и Курском поражение Германии становилось все более реальным, и над независимостью Финляндии вновь нависала угроза.

Верховный главнокомандующий уже давно был практическим правителем Финляндии. И летом 1944 года, на очередных президентских выборах, он получил полномочия президента. Именно Маннергейму и его команде удалось вывести страну из войны без оккупации ее советскими войсками. Правда, утраченные в 1940 году земли вновь отошли к Советскому Союзу, и к ним присоединился еще район Печенги. Но все же Финляндия не превратилась в советского сателлита, как это произошло, например, с такими странами, как Венгрия и Чехословакия.

Маннергейм в 1946 году не стал повторно выставлять свою кандидатуру в президенты. 79-летнему маршалу уже трудно было руководить государством по состоянию здоровья.

Выйдя в отставку, он прожил еще пять лет. Он похоронен на Центральном военном кладбище в Хельсинки, а память о нем жива в сердцах финнов.

### Вместо эпилога

«Я хочу, чтобы в сознании будущих поколений запечатлелся лишь один урок: разброд в собственных рядах смертоноснее, нежели вражеские мечи, а внутренние расхождения открывают двери иноземным захватчикам. Народ Финляндии показал в двух войнах, что единая нация, даже столь малая, насколько это вообще возможно, способна выдержать невиданное давление и благодаря единству пережить самые страшные испытания, какие только может уготовить судьба». (Карл-Густаф-Эмиль фон Маннергейм).

**Алексей ПИДЛУЦКИЙ**



# Закратаваная прырода

## *Жывёлы мінскага заапарка, а таксама ягоныя супрацоўнікі вымагаюць палёгкі*

*Мінскі заапарк, які месціцца ў мікраараёне Чыжоўка па вуліцы Ташкенцкая на беразе Свіслачы, штогод наведвае блізу 100 тысячаў чалавек. І думаецца, багата хто з іх пакідае гэтую тэрыторыю паняволенай мегаполісам фаўны ў змрочным настроі. Яно, натуральна, цікава паназіраць за жывой, хоць і замкнёнай у вальерах, прыродай, але досыць ніякавата становіцца ад таго, як дзікія жывёлы самотна поўзаюць, скачуць, ходзяць ці бегаюць з аднаго канца клеткі ў другі, а гэта ўсяго некалькі метраў. Нарэшце, б'е па вачах занядбанне сталічнага заапарка. Убога, хоць і ахайна. Няма нават прыстойнага ўваходу. Яго супрацоўнікі спадзяюцца, што рэканструкцыя, якая доўжыцца тут ужо колькі гадоў, заапарк асучасніць – і заапаркавыя плошчы значна павялічацца, і ўмовы ўтрымання жывёлаў палепшацца. Але пакуль што рэканструкцыя запаволілася.*

Мінскі заапарк вядомы з 1984 года. Але паўстаў ён з самадзейнага заалагічнага кутка, зарганізаванага сябрамі клуба аматараў прыроды Мінскага аўтамабільнага завода. У заакуток збіралі з горада самых розных выратаваных ад смерці ці калецтва жывёлін, так бы мовіць, ахвяраў урбанізацыі. З цягам часу гэтая рэзервацыя для звяроў і птушак ператварылася ў заапарк.

Цяпер тут, па словах дырэктара заапарка Юрыя Рабава, 110 відаў жывёлаў. Маюцца мядзведзі, ваўкі, лісы, рысі, пясцы, яноты, філіны, змеі, буслы. Ёсць рэдкія і незвычайныя для Беларусі жывёлы, чырвонакніжныя і экзатычныя. Як, напрыклад, паўлін, лама, буйная жаба-ваданоша, японская малпа, сціпны арол, муфлон (горны баран), кракадзілавы кайман, карлікавы в'етнамскі кабан. Надалей мінскі заапарк мяркуе спецыялізавацца збольшага на жывёлах сярэдніх шырыняў. Каб стварыць спрыяльныя ўмовы для жырафа ці слана, асабліва паставіць для іх адмысловыя павільёны на зіму, проста не хопіць грошай.

Многія жывёлы, што жывуць у заапарку, даюць прыплод, і Ю.Рабаў даводзіць, што гэта значыць, што яны адаптаваліся. Хоць тое ўсё ж проста сіла прыроды. Няволя ёсць няволяй, а ўмовы мінскага заапарка яе толькі абцяжарваюць. У заапарку чакаюць выгодаў, якія мусіць прынесці рэканструкцыя, рашэнне аб якой было прынятае яшчэ ў 1998 годзе. Будаўнічыя работы, фінансаваныя Мінгарвыканкамам, прадугледжваюць дзве чаргі.

Першая ўяўляе з сябе па рэканструкцыйным плане ўзвядзенне новых службовых карпусоў з ветэрынарным цэнтрам і ўвядзенне ў эксплуатацыю водаправода і цэнтралізаванай электрацеплaсеткі. Па словах дырэктара заапарка, «гэта дазволіць не баяцца зімаў». Справа ў тым, што дагэтуль вальеры даводзілася абаграваць адмысловымі электрапрыборамі. Пасля здачы першай чаргі заапаркавая зона пашырыцца да 18 гектараў. Яна павінна была быць здадзеная яшчэ да пачатку гэтага года, цяпер жа ўсё перанесена да сёлетнюю восень. Аднак і зараз пагражае пратэрміноўка. На завяршэнне першай чаргі рэканструкцыі на гэты год патрабаваўся 1 мільярд рублёў, а было выдаткавана толькі 350 мільёнаў рублёў.

Другая чарга рэканструкцыі сталічнага заапарка мае на мэце павелічэнне ягонай тэрыторыі да 42 гектараў, якая сягне ажно да лётніцкай вучэльні. Тады будуць пабудаваныя новыя, са святлом і абаграваннем, вальеры. Старыя таксама пераробяць на больш вялікія. Пра зацеснутасць цяперашніх вальераў сведчыць той факт, што для мядзведзя, што жыве ў мінскім заапарку, трэба зрабіць вальер як мінімум у 5 разоў большы, чымсьці ён ёсць зараз. Хоць пэўных заапаркавых стандартаў няма. Па словах Юрыя Рабава, ангельцы, напрыклад, лічаць, што таму ж мядзведзю трэба забяспечыць перамяшчэнне па тэрыторыі плошчай на 1 гектар. Як бы тое ні было, другая чарга рэканструкцыі яшчэ толькі ў праекце. З завершанага па плане рэканструкцыі на сённяшні дзень можна назваць хіба што пастаўленую два гады таму агароджу па перыметры заапарка.

Мадэрнізаванне заапарка натыркаецца на нястачу грошай. Фінансаванне з гарадскога бюджэту замалое, а зарабіць самастойна заапарк не здольны, хоць фармальна ўважаецца, што ён ёсць установай на гасразліку. Заапарк прыбытковы сезонна – ўвесну і ўлетку, калі сюды ходзяць людзі (дарэчы, квіток для дарослых каштуе 1.000 рублёў, для дзяцей – 600 рублёў). А наогул перабывае ў стратах. Утрыманне жывёлаў – дарагая справа. Гэта ж не парк з атракцыёнамі, якія пасля летняга сезона зачыніў – і амаль няма турботаў. Нездарма на ўваходзе ў заапарк стаіць скрыня для ахвяраванняў наведвальнікаў. Апрача грошай, прыносяць людзі і харчы. Дарэчы, мядзведзю штодня трэба з'есці 6 кілаграмаў адной толькі крупяной кашы, а апрача таго, багата фруктаў, гародніны, вітамінаў... Некаторых жывёлаў бяруць пад апекаванне розныя арганізацыі. Прыкладам, ужо некалькі месяцаў Таварыства беларускай мовы пераводзіць грошы на догляд і кармленне рыся, газета «Беларуская маладзёжная» выявіла ініцыятыву дапамагаць гадаванню камышовага ката.

Зусім не шыкуюць і супрацоўнікі заапарка. Заробкі заатэхнікаў сягаюць усяго прыкладна 50 тысячаў рублёў, рабочых і прыбіральшчыц – амаль удвая меней. Штодня ў заапарку можна бачыць дзесяткі маладых людзей, якія працуюць тут па гарадскіх праграмах няпоўнай занятасці, і валанцёраў.

Па вялікім рахунку, сталічны заапарк трымаецца на энтузіястах, якія не могуць без блізкасці да прыроды. Гэтаксама сюды прыходзяць папрацаваць дзеля невялікага падзаробку пенсіянеры і моладзь. Такім чынам, людзі і жывёлы дапамагаюць адно аднаму.

**Кірыла ПАЗЬНЯК,**
**фото Ул. Шлапака**

# Не маліся чужым багам

## *Як у беларускай святыні пакланяюцца «сыну д'ябла»*

*«В первом ряду Державных исполинов Триединой Святой Руси – Белой, Великой, Киевской (Малой) – по праву стоит Благоверный Царь Иоанн Васильевич Грозный (1530-1584 гг.). Славное имя этого Опричного игумена подверглось ритуальному оклеветанию. И пришло время восстановить правду о нем».*

Такія ўзнёслыя словы прысвяціў цару-дэспату багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток Жыровіцкага манастыра, які шырока распаўсюджваецца.

Не трэба быць надта дасведчаным, каб разумець, што Іван Грозны болей нагадвае не «благавернага цара», а «параджэнне» д'ябла. Дастаткова хоць крыху капнуць гісторыі, каб у гэтым упэўніцца. Аднак і багаслоўскі лісток прэтэндуе на гістарычную дакладнасць. Тым больш, што ён спасылаецца на кандыдата юрыдычных навук В.М. Ерчака, які напісаў «Русское самодержавие. Монархия как форма государственного устройства. Правда об Иоанне Грозном». Твор гэты выдадзены ў Мінску ў 2000 годзе.

Насуперак патрыярхам расійскай гісторыі, якія называлі Івана Грознага «чудовищем, которое лжет на каждом слове» (М.Кастамараў) і «зверем от рождения» (В.Ключэўскі), В.Ерчак сцвярджае, што «Митрополит Макарий воспитывал Иоанна богобоязненным, глубоко верующим Православным правителем». Напэўна, гэта па навучэнні мітрапаліта Макарыя шасцігадовы Іван «постигал тайные козни злом идущих врагов рода человеческого», калі бавіў час тым, што паліў жыўём кошак, сабак, галубоў, ламаў і адрываў ім лапы? А потым, стаўшы «тщением Митрополита Макария Помазанником Божьим», бляваў пад крыкі людзей, якіх пажыраў у яме спецыяльна прыкормлены чалавечынай мядзведзь-людаед?

Вынаходлівасць Івана Грознага ў катаваннях можна апісваць бясконца, але найлепшай выдумкай гэтага «игумена Всея Руси» была апрычніна, якая «являлась образом Апокалиптического воинства... олицетворенная бесовщина трепетала перед ней». Гэтае «воінства» складалася пераважна з крымінальных элементаў, хоць і дваранскага роду, бо не кожны чалавек шляхецкага паходжання стаў бы па добрай волі апранаць расу з капюшонам, прычапляць да сядла мятлу і адсечаную галаву сабакі, як знак сабачай аддданасці цару.

Моцна памыляюцца аўтары «багаслоўскага лістка» і калі сцвярджаюць, што кожны апрычнік «олицетворял в себе небесного воина-монаха». Бо сярод маскоўскага народа апрычнікі вельмі слушна атрымалі мянушку «кромешники», г. зн. істоты, якія вырваліся з пякельнай цемры. У адной толькі Масковіі імі было знішчана па розных падліках ад 70 да 200 тысяч чалавек, а ўсяго за 37 гадоў праўлення Івана Грознага – каля мільёна людзей памёрлі з голаду і ад эпідэміяў. Вось вынік яго вар'яцтва!

Асобная старонка тут – беларускія землі, па якіх войскі Івана Грознага дзеля «единения Славяно-Русов» прайшліся агнём і мячом. За гады Лівонскай вайны насельніцтва ўсходняй часткі Вялікага Княства Літоўскага паменшала на трэць. Асабліва пацярпеў Полацк – багацейшы горад, населены менавіта праваслаўнымі. Іван Грозны абвесціў палоннымі ўсіх палачанаў, загадаў вязаць і гнаць іх на ўсход. Як сцвярджаюць храністы, сведкі тых падзеяў, цар вывеў з Полацка пяцьдзесят тысяч нявольнікаў: гналі іх, і жанчын, і дзяцей, звязаных вяроўкамі і абы-як апранутых, нягледзячы на лютаўскі мароз. Яны сотнямі паміралі ад голаду і холаду. А каталікі былі забітыя і кінутыя пад лёд Дзвіны. Таму прымушаць беларусаў пакланяцца Івану Грознаму – здзек і абраза!

Тым больш калі гэта робіцца ў такой нашай святыні, як Жыровічы! Усё тут дыхае беларускай гісторыяй і легендамі. На месцы, дзе з'явілася знакамітая Жыровіцкая ікона Божай Маці.

Згодна з легендай, летам 1470 года мясцовыя пастухі заўважылі аднойчы незвычайнае святло, якое прабівалася скрозь галіны лясной ігрушыны, што стаяла пад гарой, над ручаём. Сяляне падышлі бліжэй і ўбачылі ззяючы святлом абраз Божай Маці. Знялі з дрэва і аднеслі яго свайму пану Аляксандру Солтану, але той спачатку не звярнуў асаблівай увагі і паклаў абраз у ларэц. На наступны дзень ён расказаў усё сваім гасцям, аднак іконы ў ларцы не было. Толькі праз нейкі час пастухі зноў знайшлі яе на тым самым месцы. І тады Аляксандр Солтан загадаў паставіць там царкву, вакол якой і ўзнікла паселішча. З цягам часу Жыровічы сталі месцам паломніцтва. Людзі ідуць і да крыніцы, каля якой упершыню з'явілася ікона. Вада гэта лічыцца цудадзейнай. І прыходзяць таксама да каменя на месцы трэцяга яе яўлення, які называецца Стапой Багародзіцы і знаходзіцца пад алтаром царквы.

Чаму і Рускай праваслаўнай царкве, якая апанавала манастыр, не выхоўваць вернікаў у пачуцці прыгожага, чыстага, добрага, а не займацца навязваннем культу чужога беларусам «помазанника Божьего», які мае неабвержную рэпутацыю адпетага забойцы.

**Зміцер БУЛАЙ**

## У Светлагорску – царкоўны цуд

У Свята-Пятроўскай царкве Светлагорска мiраточыць абраз святога Мiкалая Цудатворца.

Ужо 6 дзён – з 31 мая – iкона выдзяляе «слёзы». Паводле назiрання служак царквы, абраз пачынае лiць слёзы каля 9 гадзiн ранiцы, а ўвечары спыняе.

Абраз, якi ўжо мiраточыў, у храм прынёс жыхар горада. Ён патлумачыў, што атрымаў яго ў падарунак ад свайго сябра – асуджанага. Той выразаў абраз з выявай лiку Мiкалая Цудатворца з дрэва.

Ад афiцыйных заяваў наконт гэтай з'явы ў Гомельска-Жлобiнскай епархii, да якой належыць светлагорская царква, пакуль устрымлiваюцца.

**Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН**

## Найбольш любяць газету скандынавы

Сусветная асацыяцыя газетных выдаўцоў, якая праводзiла з'езд у Ганконгу, апублiкавала даследаванне пра спажыванне газетнай прадукцыi ў розных краiнах свету. Аказалася, што найбольш купляюць газеты нарвежцы, на кожную тысячу жыхароў у iх прыпадае 575 экземпляраў розных выданняў. Крыху саступае Нарвегii краiна Узыходзячага Сонца – кожная тысяча японцаў атрымоўвае цi купляе 570 газетаў.Трэцяе i чацвёртае месцы таксама займаюць скандынаўскiя краiны – Фiнляндыя i Швецыя.

Найбольшы штодзённы тыраж газетаў мае Японiя. У гэтай краiне разавы тыраж складае 71,8 мiльёна экземпляраў. Следам iдзе Індыя – 66 мiльёнаў. У ЗША для 250 мiльёнаў насельнiцтва разавы тыраж дасягае 56 мiльёнаў асобнiкаў, у Кiтаi ён складае 50 мiльёнаў, але насельнiцтва там у 6 разоў большае за амерыканцаў. З еўрапейскiх краiнаў самы вялiкi тыраж газетаў у Германii – 23,9 мiльёна экземпляраў.

Амерыканскi слаган «Рэклама – рухавiк гандлю» пацвярджаецца амерыканскiм рэкламным рынкам на газетных старонках. Ён дасягнуў памеру ў 48,6 мiльярда долараў. А вось у высокаразвiтай Японii ён складае ўсяго 7,4 мiльярда долараў. Таму не дзiўна, што менавiта рэклама забяспечвае 87% даходаў амерыканскiх газетаў, а японскiх напалову менш – 39%. Пра нашыя i казаць няма чаго. Ён такi мiзэрны, што яго пакуль што немагчыма разгледзець.

**Яўген ГАРЭЛІК**

## Мошчы св. Андрэя Баболi

Мошчы святога Андрэя Баболi вернуты ў касцёл Узнясення Крыжа ў Іванаве (былое Янава). Перадаў святыя мошчы кардынал Мiнска-Магiлёўскi Казiмiр Свёнтэк, у якога да таго захоўвалася часцiнка каталiцкага святога (труна з целам Андрэя Баболi знаходзiцца ў Варшаве). У 1930-я гады часцiнка мошчаў была прывезена на Палессе, дзе святы прыняў пакутнiцкую смерць у XVII стагоддзi ад рук казакоў. Святыня захоўвалася ў спецыяльным алтары. Аднак пасля далучэння Заходняй Беларусi да Савецкага Саюза пачаўся наступ на рэлiгiю, i ўзнiкла пагроза страты святых мошчаў. Спачатку машчы хаваў у сябе арганiст касцёла. Потым яны трапiлi ў Пiнск да ксяндза Казiмiра Свёнтэка. Зусiм нядаўна часцiнка мошчаў святога Андрэя Баболi была вернута ў касцёл Узнясення Крыжа ў Іванаве. Захоўвацца мошчы будуць у спецыяльнай пасудзiне.

Падобная гiсторыя адбылася i з мошчамi праваслаўнага святога Афанасiя Фiлiповiча, чые мошчы былi вернуты на Брэстчыну пяць гадоў таму. Уцалелыя падчас пажару часцiнкi мошчаў былi вывезены манахiнямi ў гады першай сусветнай вайны i доўга блукалi па свеце. Потым яны захоўвалiся ў Ляснянскiм манастыры паблiзу Парыжа. Падчас вiзiту на Брэстчыну патрыярх Маскоўскi i ўсяе Русi Аляксiй II прывёз часцiнку мошчаў у царкву Афанасiя Брэсцкага, якая пабудавана на месцы расстрэлу Фiлiповiча паблiзу Брэста.

**Валянцiна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН**



# «Скользкий путь» клонирования

## Вероятно, уже в ближайшие два года произойдет клонирование человека

**Арлин КЛОЦКО**

*Кого-то такой прогноз заставит содрогнуться от ужаса, кого-то – нет, но в любом случае произойдет это на законных основаниях и отнюдь не на каком-нибудь таинственном необитаемом острове. Эта попытка будет полностью поддержана медицинскими, научными, юридическими и политическими кругами. Сам клон, однако, никогда не покинет лабораторию в Великобритании, в которой он будет создан.*

В январе прошлого года в Великобритании была легализована одна из форм клонирования человека, получившая название «терапевтическое клонирование», а если выразиться более точно – замена ядра клетки. Как и в случае с оплодотворением в пробирке, британцы оказались первыми, кто разработал систему правил для регулирования спорной, с точки зрения морали, технологии. Весь мир следит за тем, что будет дальше.

Это напоминает сценарий к фильму «Спящий» Вуди Аллена (1973 г.), только проигранный в обратном порядке. В фильме были предприняты попытки клонировать Гитлера из его сохраненного носа. Сегодня, вместо того чтобы клонировать людей из элементов человеческого организма (репродуктивное клонирование), ученые надеются выращивать эти элементы, клонируя самих людей.

Первая часть данной процедуры идентична процедуре, использованной для создания овцы, известной миру под кличкой Долли, являющейся первым клонированным млекопитающим. Взамен ядра предварительно удаленного из яйцеклетки вводится ядро клетки человека. Образуется эмбрион, который затем не имплантируется в матку, а используется для получения эмбриональных клеток из его внутренней клеточной массы. Потенциально из этих клеток могут развиться все виды клеток человеческого организма, что может привести к излечению многих хронических заболеваний. Однако из них никогда не сможет развиться ребенок.

Легализовав терапевтическое клонирование, в Великобритании думают над вопросом запрещения репродуктивного клонирования. Британцы выступают против таких проектов, как проект доктора Северино Антинори из Рима и доктора Панайиотиса Завоса из Кентукки (США), которые предлагают дать возможность иметь детей бесплодным мужчинам путем введения их ДНК в яйцеклетку, взятую у партнерши.

Репродуктивное клонирование поднимает вопросы морали и нравственности и, главным образом, проблему безопасности. Ученые полагают, что у клонов человека будут дефекты вследствие того, что яйцеклетка, получившая новое ядро, должна «научить» его давать указания, необходимые для формирования человеческого организма (т.е. перепрограммировать его) очень быстро, и гены, которые должны быть «включены» в данном процессе, могут оказаться «отключенными» и наоборот.

Там, где речь идет о человеке, на первый план должны выступать соображения безопасности. А так как дефекты, обнаруженные в клонах, не являются генетическими мутациями, никакая предимплантационная диагностика на стадии эмбриона не обнаружит их существования.

Терапевтическое клонирование является, вероятно, менее опасным, чем репродуктивное клонирование, поскольку дефекты, возникающие при перепрограммировании в процессе терапевтического клонирования, оказывают воздействие не на все клетки организма, а лишь на те клетки, которые используются в процессе лечения.





На данный момент терапевтическое клонирование легализовано только в Великобритании. Закон, изданный в конце прошлого года в Японии, разрешает терапевтическое клонирование, но запрещает перенесение эмбриона в матку. В марте месяце в Дании Совет по этике поддержал терапевтическое клонирование. Но не случится ли так, что любая страна, легализовавшая терапевтическое клонирование, окажется на скользком пути, который в конечном итоге приведет к принятию репродуктивного клонирования?

Основная идея таких рассуждений заключается в том, что вполне приемлемое действие «х» повлечет за собой абсолютно не приемлемое по своей сущности действие «у». Действительно, существуют два вида «скользкого пути» – логический и социологический. Вступив на логический «путь», в конце его вы принимаете нечто морально неприемлемое, потому что уже не можете отличить его от приемлемых действий. Следуя социологическому «скользкому пути», вы переходите от одних действий к другим – даже если они концептуально отличаются друг от друга – лишь потому, что совершение одних создает социальный климат для принятия других.

Терапевтическое клонирование концептуально отличается от репродуктивного клонирования. Хотя начало у них и одинаковое, конечные цели абсолютно разные. Первое нужно для того, чтобы спасать людям жизнь путем лечения неизлечимых на настоящее время болезней, таких как, например, болезнь Паркинсона, острый лейкозный синдром и рассеянный склероз. Второе, т.е. создание человека путем клонирования, может иметь множество причин, начиная от эгомании, неспособности отличить копирование от воскрешения и до понятного желания иметь биологически родственных детей.

И хотя я и не верю в «скользкий путь», ведущий от терапевтического к репродуктивному клонированию, ценности любого общества должны найти отражение в законах.

**© Project Syndicate, июнь 2001 г.**

# Ізноў трывожныя спадзяваннi

*Сёння нацыянальная зборная Беларусi па футболе правядзе чарговы адборачны матч да чэмпiянату свету 2002 супраць Нарвегii на яе полi. У гэты дзень пройдуць паядынкi i памiж камандамi, якiя таксама ўваходзяць у 5-ю групу: Арменiя–Польшча, Украiна–Уэльс.*



Ці пройдзем і зараз мы нарвежцаў?

Здаецца, фартуна даволi ветлiва сочыць за намаганнямi футбалiстаў пад кiраўнiцтвам Эдуарда Малафеева, значна перабольшвае свой крэдыт даверу, раз за разам прадастаўляе яго дружыне чарговую магчымасць ухапiць птушку шчасця сваiмi рукамi. Пакуль, на жаль, больш атрымлiваецца заграбаць пыл з жару чужымi, калi быць дакладным, нагамi.

Нулявая нiчыя ў Кiеве з украiнцамi, па ходзе якой бачна была адчувальная перавага гаспадароў; апошняя хвiлiна гульнi дома супраць тых жа нарвежцаў, незабыўны момант, калi «яго спадарства мяч» трапiў у штангу i потым, «сутыкнуўшыся» з нагою Рамана Васiлюка, накiраваўся ў вароты пры лiку 1:1; нулi ў чатырохдзённай даўнасцi сустрэчы з армянамi, калi ўдалося пазбегнуць паразы пасля, мякка кажучы, невыразнай гульнi ў другой палове.

Прыйшоў час зрабiць усё самiм, а не чакаць памылак ад iншых. А вось як знайсцi гульню, якая б дазволiла сваiмi сiламi атрымаць перамогу, шчыра кажучы, не бачна.

Падчас сваёй першай прэсканферэнцыi на пасадзе галоўнага трэнера Эдуард Васiльевiч пацвердзiў свае прынцыповыя погляды на футбол, сярод якiх, як следства, вызначалася i вядомае малафееўскае «Я за вынiк 6:5, а не 1:0».

Забiта ўсяго сем мячоў. Але лiдэры – палякi – правялi 15 галоў, а тое, што трэба раўняцца менавiта на iх у гэтым паказчыку, – безумоўна. А як нашы хлопцы плануюць забiваць пераможныя мячы, калi ва ўсiм спiсе зборнай iснуе толькi адзiны(!) намiнальны нападаючы, якi да таго ж нiяк не можа набраць сапраўдную спартыўную форму?

Будзем чакаць мы сёння вестак i з Грузii, дзе правядзе афiцыйны паядынак мужчынская зборная Беларусi па баскетболе. Як вядома, гэтыя каманды разам з калектывамi Азербайджана i Балгарыi павiнны разыграць у квалiфiкацыйным турнiры дзве «камандзiроўкi» ў наступны адборачны раўнд чэмпiянату Еўропы-2003. Галоўны трэнер Аляксандр Барысаў са сваiмi паплечнiкамi прагназуема выдатна пачаў турнiр i ў першай гульнi ў Гомелi ушчэнт разбiў азербайджанцаў – 121:50. Здзiўляцца тут няма чаго: сапернiк згуляў свой першы афiцыйны матч пасля... распаду былога СССР i нацыянальны чэмпiянат пад № 1 плануе правесцi ў гэтым годзе. Перамога дазволiла ўстанавiць адразу некалькi рэкордаў у беларускiм баскетболе, напрыклад – самы буйны выйгрыш, найменшая колькасць прапушчаных ачкоў, найбольшая колькасць набраных i гэтак далей.

Нашы канкурэнты – балгары i грузiны сустрэлiся ў Тбiлiсi i, па баскетбольных мерках, даволi лёгка перамаглi нашы сённяшнiя сапернiкi – 91:75. Аналiзуючы гэтыя лiчбы, вы самi зможаце прагназаваць барацьбу за першыя два месцы.

Мы ўсе прызвычаiлiся жыць у трывожным чаканнi, у спорце – таксама. Колькi ўжо часу не цешаць нас сваiмi выдатнымi выступленнямi на пляцоўках свету гандбалiсты, ватэрпалiсты, валейбалiсты, хакеiсты (таксама i хакей на траве), тыя ж баскетбалiсты ды футбалiсты – як бачым, прадстаўнiкi ўсiх гульнявых вiдаў спорту, што кожная неблагая вестка прымаецца на «ура».

**Уладзiмiр ДАЎЖЭНКА**
**Фота Мiкалая ШОСТАКА**


Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаваннi аўтараў, публiкаваць артыкулы дзеля палемiкi
Адрас: г.Мiнск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгiстрацыi № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнiк Змiцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазiтываў заказчыка на палiграфiчным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мiнск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1718 Нумар падпiсаны ў друк 5/06/2001 (15:00) Наклад – 9.050